*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 20(76) ◈ 20 мая 1992 г. ◈ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ

СУСТРЭЧА КІРАЎНІКОЎ ПАРЛАМЕНТАЎ І ЎРАДАЎ УДЗЕЛЬНІЦ СНД У ТАШКЕНЦЕ СУПАЛА З СУР'ЕЗНЫМ КРЫЗІСАМ САДРУЖНАСЦІ. ТАК, УКРАІНА НЕ ТОЛЬКІ НЕ ПРЫСЛАЛА СВАЙГО ПРЭЗІДЭНТА НА СУСТРЭЧУ, АЛЕ І ВЫКАЗАЛА ПЕСІМІЗМ НАКОНТ БУДУЧАГА СНД. ВЯДУЦЦА РАЗМОВЫ АБ МАГЧЫМАСЦІ СТВАРЭННЯ НОВАГА ЭКАНОМІКА-ПАЛІТЫЧНАГА САЮЗА, АСНОВАЙ ЯКОГА, ПА ПРАГНОЗАХ, ПАВІННЫ СТАЦЬ БЕЛАРУСЬ, КАЗАХСТАН І РАСІЯ. ТЫМ НЕ МЕНШ, ПАКУЛЬ СНД ЖЫВЕ. НА СУСТРЭЧЫ Ў ТАШКЕНЦЕ АБМЕРКАВАНЫ ШЫРОКІ КОМПЛЕКС ПАЛІТЫЧНЫХ, ЭКАНАМІЧНЫХ І ВАЕННЫХ ПРАБЛЕМ. АСАБЛІВАЕ ЗНАЧЭННЕ ДЛЯ НАШАЙ РЭСПУБЛІКІ МАЮЦЬ ПЕРАМОВЫ АБ ФІНАНСАВЫМ ЗАЛІКУ ПАМІЖ ЧЛЕНАМІ СНД, БО ЎСЕ ЯНЫ ЗАПАЗЫЧЫЛІ БЕЛАРУСІ. ВАЖНЫ ВЫНІК СУСТРЭЧЫ — ПАДПІСАННЕ ДАГАВОРА АБ КАЛЕКТЫЎНАЙ БЯСПЕЦЫ, ЯКІ БЕЛАРУСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ ПАКУЛЬ НЕ ПАДПІСАЛА.

*Менск наведала місія ААН з тым, каб адкрыць тут прадстаўніцтва гэтай арганізацыі. Сярод членаў СНД такое прадстаўніцтва ў Беларусі адкрываецца ўпершыню.*

Падпісана пагадненне паміж Саветам Міністраў Беларусі, аб'яднаннямі работадаўцаў, Саветам Федэрацыі прафсаюзаў рэспублікі на 1992 год. У ім прадугледжана забяспечыць жыццёвы ўзровень насельніцтва, садзейнічаць занятасці яго і развіваць рынак працы, ахоўваць працу і навакольнае асяроддзе, прыняць іншыя меры. Ці прыпыніць прынятае пагадненне канфлікты і забастоўкі, якія пастаянна ўзнікаюць то ў адным, то ў другім месцы, гаварыць пакуль рана.

ПАПЯРЭДЗІЛІ АБ МАГЧЫМАЙ ЗАБАСТОЎЦЫ ГОМЕЛЬСКІЯ НАСТАЎНІКІ.

У прынятым Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь Законе аб ветэранах, які ўводзіцца ў дзеянне з 1993 года, забараняецца абмежаванне грамадска карыснай працоўнай дзейнасці ветэранаў, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных законам, гарантуецца бясплатны праезд на многіх відах транспарту і іншыя льготы.

КАЛЕКТЫВУ МЕНСКАГА АЎТАЗАВОДА ПРАПАНАВАНА СТВАРЫЦЬ У СЯБЕ АКЦЫЯНЕРНАЕ ТАВАРЫСТВА. ГЭТА, МЯРКУЕЦЦА, ДАЗВОЛІЦЬ ПРАДПРЫЕМСТВУ ВЫЙСЦІ З ЗАЛЕЖНАСЦІ АД ДЗЯРЖАВЫ. ПАВОДЛЕ РАЗЛІКАЎ, ЗАВАДЧАНЕ МОГУЦЬ АТРЫМАЦЬ БЯСПЛАТНА 30 ПРАЦЭНТАЎ АКЦЫЙ. РАБОЧЫЯ Ж ЛІЧАЦЬ: АД КАГО Б НІ ЗАЛЕЖАЦЬ, АБЫ НЕ ЗАЛЕЖАЦЬ.

## «НАЦЫЯНАЛЬНА СВЯДОМЫХ ЛЮДЗЕЙ У КАБІНЕТАХ... ВЕЛЬМІ І ВЕЛЬМІ МАЛА» Стар. 2

## *Малавядомы артыкул Язэпа Лёсіка пра мову* Стар. 5

### *СВЯТКАВАННЕ ДНЯ ПЕРАМОГІ*



*Менск, 9 мая 1992 года. З ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны сустрэліся кіраўнікі Рэспублікі Беларусь. На пярэднім плане Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч (злева) і Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч (у цэнтры).*

Фота Івана ЮДАША. (БелТА).



З нядаўняга часу на шчучынскай аўтастанцыі абвесткі робяцца па-беларуску. Заслуга ў гэтым дыспетчара Ядвігі Аляксандраўны Кузьмянко.

А ўвогуле працэс беларусізацыі рухаецца наперад на гэтай аўтобуснай станцыі дзякуючы яе начальніку — Міхаілу РAманавічу Грынкевічу. І не толькі абвесткі тут робяцца па-беларуску. На роднай мове зроблены указальнікі, шыльды з назвамі пляцовак, маршрутаў.

Здавалася б, невялікая справа зроблена ў Шчучыне. І аўтастанцыя — адна з нямногіх устаноў, дзе ідзе справа беларусізацыі. Але ж аўтобусамі ездзіць большая частка жыхароў горада і раёна. Значыць, да ўсіх і дакранаецца роднае слова.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

## *Дзяржаўнасць немагчыма без нацыянальнай мовы*

15 мая ў Доме літаратара адбылася канферэнцыя «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь», якую арганізавалі і правялі ТБМ імя Ф. Скарыны пры садзеянні Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны.

Напачатку адбылося пасяджэнне Рэспубліканскай Рады ТБМ, на якім была заслухана справаздача аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці Рэспубліканскай Рады за 1991 год і за І квартал 1992 года і абмеркавана выдавецкая дзейнасць Таварыства.

Канферэнцыю адкрыў старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Ніл Гілевіч, які ў сваім выступленні адзначыў, што станаўленне Беларусі як незалежнай дзяржавы немагчыма без нацыянальнай мовы. Ідэя ўласнай дзяржаўнасці павінна ператварыцца з мары ў рэальнасць.

Як і што трэба зрабіць, каб беларуская мова стала сапраўды дзяржаўнай, і ішла гаворка на канферэнцыі. На ёй выступілі намеснік Старшыні Савета Міністраў Міхась Дзямчук, міністр культуры Яўген Вайтовіч, доктар гістарычных навук Леанід Лыч, галоўны сакратар ТБМ імя Ф. Скарыны Яўген Цумараў, народны дэпутат Беларусі Алег Трусаў, старшыня Салігорскай рады ТБМ Марыя Мацюкевіч, віцэ-прэзідэнт АН Беларусі Радзім Гарэцкі, старшыня Гродзенскай рады ТБМ Аляксей Пяткевіч, галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Сяргей Законнікаў і іншыя.

Была прынята рэзалюцыя.

Падрабязныя матэрыялы з канферэнцыі чытайце ў бліжэйшых нумарах «Нашага слова».

# Народныя промыслы: што будзе заўтра?

***Аб пагрозе вымірання народных мастацкіх рамёстваў размовы ідуць даўно. Нялёгкія дні перажываюць яны і сёння. Гэта і стала асноўнай тэмай інтэрв'ю кандыдата гістарычных навук А. І. Сілянкова з намеснікам старшыні праўлення Таварыства майстроў народнай творчасці Беларусі Ю. А. Івановым.***

**— Юрый Аляксеевіч, у якім стане, на ваш погляд, апынуліся народныя мастацкія промыслы пад уплывам рэформ, што праводзяцца ў рэспубліцы па пераходу да цывілізаванага рынку?**

— У папярэднюю эпоху народная творчасць дапамагала стварыць фасад сацыялістычнай культуры. На гэта не патрэбны былі вялікія сродкі. Ні адзін народны майстар не атрымаў ад дзяржавы ні майстэрні, ні матэрыялаў, ні інструменту. Як звычайна рабілася? Прыязджаюць на вёску, бяруць у людзей пасцілкі, гаршкі, затым робяць выставу. І такім чынам нехта ўжо з кіраўніцтва прасоўваецца па службе. Бачыце, як проста: даказваецца, што народная творчасць квітнее, і ў той жа час у гэта не ўкладваюцца амаль ніякія сродкі. Майстар жа за сваю працу атрымліваў грамату, невялікую прэмію. Вось і ўсё.

Сёння рамесніцкія вырабы купляюць кааператывы, прадпрыемствы, іх вязуць за мяжу. З аднаго боку, гэта добра: майстар пачаў зарабляць, з'явіўся стымул для працы, для падрыхтоўкі матэрыяльнай базы. Але, з другога боку, многія непакояцца, што купляюць усё запар, часта рэчы халтурныя, дрэнныя. І спажывец і вытворца сталі ахвярамі дрэннага густу, які быў выхаваны ў папярэднюю эпоху, калі стваралася псеўданародная сурагатная культура.

У цэлым жа ўмовы для развіцця промыслаў ёсць. Галоўнае, што майстар перастаў залежаць ад заказу мастацкай фабрыкі ці культустановы. Ёсць нямала заказчыкаў, якія могуць даць работу. Праўда, трэба адзначыць, што гэтыя спрыяльныя ўмовы стварыліся са спазненнем, калі сярод народных майстроў засталіся адны дзяды і бабулі. Многія памерлі.

Было б добра, калі б рынак прыйшоў раней. Сёння ён ужо значна спазніўся. Таму працэс станаўлення народных промыслаў ідзе вельмі цяжка. Ім патрэбна дапамога дзяржавы, грамадскіх арганізацый. Варта перш за ўсё палепшыць падрыхтоўку кадраў. Затым можна было б уздзейнічаць на спажыўцоў праз рэкламу, выхаванне іх густаў. Тут яшчэ вялікае поле дзейнасці. Нашы людзі ў культурным плане не падрыхтаваныя для ўспрыняцця сапраўднага народнага мастацтва. Ім доўгі час, груба кажучы, прамывалі мазгі, што было звязана з ідэалагічнымі ўстаноўкамі.

На што сёння можна спадзявацца прыхільнікам народнага мастацтва? Перш за ўсё, мы спадзяёмся, што прыйдзе разумны гаспадар, які будзе ва ўсім абапірацца на густ спецыялістаў. Гэта значыць, ён не будзе жыць адным днём: прыдбаў гатовыя рэчы і паехаў. Ён будзе клапаціцца аб будучым: забяспечыць майстру вучняў, дасць яму сыравіну, майстэрню.

Сёння народнаму майстру трэба юрыдычная абарона, прававая аснова. Таму што як цяпер працуюць кааператары? Яны ў вёсцы купляюць нейкі выраб, напрыклад, за сто рублёў, а недзе прадаюць за тысячу. Майстар павінен арыентавацца ў кан'юнктуры рынку, яму трэба дапамагчы.

**— У сувязі з гэтым хацелася б запытаць: а што робіць ваш Інстытут праблем культуры для выжывання народных промыслаў?**

— Наш інстытут створаны нядаўна, на базе рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-масавай работы. Раней мы займаліся ў асноўным аказаннем метадычнай дапамогі народным майстрам. Праводзілі выстаўкі,— напрыклад, у фальклорным цэнтры на Курасоўшчыне, што ў Менску. Хоць гэтага было яўна недастаткова. Самы вялікі недахоп: у нас няма ні аднаго музея народнай творчасці, этнаграфічнага музея. І гэта ў той час, калі былі сабраны багатыя дзяржаўныя і прыватныя калекцыі мастацкіх вырабаў. Але мы іх не бачым, як не ведаем у цэлым беларускага народнага мастацтва, бо яно схавана ў запасніках, розных сховішчах. Адно што мы бачым — гэта фабрычныя вырабы ў магазінах. І часта нават народныя майстры кажуць, што бяруць узоры для сябе з купленых у магазіне рэчаў. Вось які парадокс атрымліваецца. Тым больш не могуць пазнаёміцца з сапраўдным народным мастацтвам дзеці.

Таму мы стварылі музей на «Белай Дачы». Ён выкарыстоўваецца намі як база для павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры, творчай моладзі. Там жа працуюць студыі. За невялікую плату можна навучыцца пляценню саломкай, тканню паясоў, інкрустацыі саломкай і іншым відам рамяства.

- По заказу Міністэрства культуры рэспублікі мы прыступілі да распрацоўкі праграмы — як захоўваць і развіваць мастацкія рамёствы. Ёй будзе папярэднічаць вывучэнне і аналіз народных рамёстваў у рэспубліцы, цяпер распрацоўваюцца задачы, накірункі дзейнасці ў гэтай сферы ўадпаведнасці з новым Законам аб культуры.

Трэба дапамагаць майстрам абараняць свае творчыя юрыдычныя правы. Часта яшчэ як бывае? Пачынае народны майстар супрацоўнічаць з клубам ці фабрыкай, старшыня калгаса адразу заяўляе: мы пазбаўляем цябе пенсіі. Маўляў, калі ў цябе яшчэ ёсць сілы працаваць, дык ідзі ў калгас. Быццам гэта прыгонны селянін. Таму мы думаем цяпер над такімі дакументамі, якія б абаранялі чалавека. Мы хочам, каб на даным этапе, калі народныя промыслы перажываюць цяжкі перыяд, не абкладваліся падаткамі народныя майстры, перш за ўсё тыя, якія ўваходзяць у Таварыства народных майстроў і якія атрымалі прызнанне ў спецыялістаў. Бо сёння яшчэ нямала такіх, якія называюць сябе народнымі майстрамі, а на справе яны не маюць ніякіх адносін да народнага мастацтва.

І ў цэлым трэба было вырашыць праблему абкладвання падаткамі ў сферы культуры. Напрыклад, на Захадзе існуе такі парадак: калі прадпрыемства ўкладвае сродкі ў нейкія культурныя праграмы, то з яго не бярэцца падатак або бярэцца ў зменшаным памеры.

Акрамя таго, наш інстытут займаецца павышэннем кваліфікацыі работнікаў культуры. Таму што ў нас вельмі мала спецыялістаў, якія б ведалі народную мастацкую культуру. Акрамя таго, у гэтай сферы нізкая зарплата, высокая цякучасць кадраў, дрэнныя ўмовы для працы. Спецыялісту патрэбен транспарт, сыравіна, інструмент, каб можна было паехаць да народнага майстра, дапамагчы яму. Ён павінен добра ведаць і методыку працы ў народным мастацтве. І тут у нас цяпер вялікія цяжкасці. Аб гэтым ва ўвесь голас заявілі дзеячы культуры ў сваіх калектыўных зваротах да ўрада і парламента, на пленумах творчых саюзаў. Як вядома, розныя сферы тут напаткалі ў многім аднолькавыя беды. Народным жа рамёствам асабліва не пашанцавала.

Па-першае, у іх вельмі слабая матэрыяльная база. Рэдка якія клубы, студыі маюць свае майстэрні. На жаль, гэта адносіцца і да дзіцячых студый, якія, дарэчы, заслугоўваюць асобнай размовы. Часцей за ўсё яны туляцца ў падвалах. І што характэрна. Апошнім часам з наступленнем рынку нават з гэтых падвалаў, якія раней нікому не былі патрэбныя, пачалі высяляць мастацкія студыі. Значыць, матэрыяльная база народнага мастацтва ў сённяшніх умовах не паляпшаецца, а пагаршаецца.

Па-другое, вельмі церпяць установы культуры ад гаспадарчых кіраўнікоў. Калі ім патрэбна сэканоміць нейкія сродкі, то перш за ўсё яны змяншаюць выдаткі на культуру. Самавольна скарачаюцца асяродкі культуры, метадычныя службы.

У нас у інстытуце народнымі промысламі займаюцца толькі два чалавекі. Зразумела, гэта недастаткова. Справа ўпіраецца ў нехватку грошай.

**— Апошнім часам зроблены пэўныя крокі, каб дапамагчы народным мастацкім промыслам. Створаны Асацыяцыя мастацкіх промыслаў, Цэнтр традыцыйнай культуры, Таварыства майстроў народнай творчасці Беларусі. Ці відаць ужо якія-небудзь вынікі іх працы?**

— Асацыяцыя мастацкіх промыслаў — гэта часта вытворчая структура. У ёй аб'ядналіся фабрыкі, што займаюцца выпускам масавай прадукцыі. Сутнасць іх не змянілася — як падпарадкоўваліся ДАСТу раней, так і цяпер падпарадкоўваюцца. Устаноўлены план, дзейнасць рабочых нацэлена на выпуск масавай прадукцыі. Вытворчасць вырабаў пастаўлена ў іх на паток.

**— А ці карыстаецца асацыяцыя калі-небудзь вашымі паслугамі, кансультацыямі?**

— Не, мы з ёй сувязі не маем. Там існуе ўнутраны мастацкі савет. Раней у Міністэрстве мясцовай прамысловасці быў савет, куды запрашалі спецыялістаў з розных устаноў. Цяпер асацыяцыя поўнасцю самастойная, і ёй, пэўна, не выгадна, каб мастацкую якасць яе прадукцыі нехта кантраляваў ці проста назіраў, што там робіцца. А можа, у гэтым і няма патрэбы. Цяпер кантралюе вытворцу той, хто купляе вырабы. Што купляюць, тое і будуць рабіць. Закон рынку...

Ну, а Таварыства майстроў — арганізацыя грамадская. Яна была створана крыху болей за год назад. І апынулася ў вельмі цяжкім становішчы. Мы не можам выпрасіць для сябе нават хоць бы адзін пакойчык. Ды і грошай няма. А як працаваць без падзейнай матэрыяльнай базы? Нам даводзіцца над усім гэтым ламаць галаву. Праўда, мы спрабуем апошнім часам арганізаваць справу так, каб можна было самім зарабіць грошы. Але над намі вісіць падатковы прэс. Мы ніяк не можам дабіцца, каб нас уключылі ў спіс тых арганізацый, якія вызваляюцца ад падаткаў — як некаторыя іншыя грамадскія творчыя арганізацыі. Калі б гэта зрабілі, мы маглі б узяць пад сваю апеку некаторыя прадпрыемствы, якія б пералічвалі нам частку свайго прыбытку і тым дапамагалі б стаць таварыству на ногі.

Ёсць яшчэ Цэнтр традыцыйнай культуры. Гэта частка былога Рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра. Цяпер ён уваходзіць у сістэму Міністэрства культуры. Там праведзена некалькі цікавых акцый. Адна з іх называецца «Зямля пад белымі крыламі». Сутнасць яе вось у чым. Ёсць у Беларусі многа цікавых раённых музеяў, дзе захоўваюцца нядрэнныя калекцыі мастацкіх вырабаў. Ёсць і пэўная правінцыяльная інтэлігенцыя, якая добра ведае свой край, зберагае мастацкія каштоўнасці, мясцовыя традыцыі. Але гэтыя багацці мала хто бачыць ды і мала хто пра іх ведае.

І вось Цэнтр традыцыйнай культуры вырашыў прывозіць у Менск матэрыялы мясцовых музеяў, каб знаёміць з мастацтвам асобных рэгіёнаў, гісторыяй, культурай, народнай творчасцю. Так, прыязджалі ўжо з Гарадка і з Браслава. Гэта было ў час Каляд. Яны паказалі мясцовыя абрады, звязаныя са старажытным святам. Сустрэліся са студэнцкай моладдзю, расказалі, якія цікавыя людзі ў іх там жывуць, якая ў іх багатая гісторыя. Былі сярод іх і народныя майстры — яны паказалі свае вырабы, няхітрыя прылады працы, прама на вачах у гледачоў выраблялі прадметы хатняга ўжытку. Было вельмі цікава.

Увагі, на мой погляд, заслугоўвае дзіцячая творчасць. Таму што сёння менавіта на гэтым узроўні, спадзяёмся, адбудзецца адраджэнне традыцыйнай культуры. Вельмі важна, думаю, каб фальклор, народная творчасць сталі часткай школьнай праграмы.

Выхаваць добры эстэтычны густ у чалавека без мастацкіх рамёстваў вельмі цяжка. І пачынаць патрэбна з дзяцей. Яны ў захапленні, калі бачаць, як на іх вачах робяць гаршчок з простай гліны, пеўніка са звычайнай саломкі і г. д., бурна рэагуюць і затым самі пераймаюць прыёмы рамяства. Я пераканаўся ў тым сам, працуючы ў Аксакаўшчыне, дзе адкрыты студыі для дзяцей — па пляценні саломкай, дэкаратыўным маляванні і выцінанцы.

Вядома, што хібы ў выхаванні дзяцей прыводзяць затым да вялікіх перакосаў у густах дарослых. Наш масавы глядач, на мой погляд, сёння пазбаўлены асновы разумення народнай творчасці,— напрыклад, простага ганчарнага посуду. Таму што першапачатковае ў мастацтве — архаіка, адвечная пластыка без усякага роспісу, простае дрэва, гліна, тканіна, нават простая этнаграфічная рэч. Яны ж усе прасякнуты асобнай біялагічнай энергіяй свайго часу, нейкім гістарызмам. Японцы гэта называюць іржой, калі на рэчах ляжыць павуціна часу...

**— Ваша праца звязана з паездкамі ў цэнтры народнай творчасці. Дзе вам давялося пабываць апошнім часам? Якія ўражанні ад сустрэч з народнымі майстрамі?**

— Цэнтраў традыцыйнай творчасці ў нас засталося не так і многа. Я апошнім часам ездзіў у Столін — дапамагаў стварыць там Дом палескай культуры. У прыватнасці, рабіў там залу традыцыйнага мастацтва. Уражанні не вельмі радасныя. Усюды бачны сляды вымірання народнай культуры. Там недалёка вёска Гародня — даўні цэнтр ганчарства. Цяпер у ёй засталося не болей чатырох народных майстроў. Галоўная праблема — як арганізаваць збыт іхняй прадукцыі. У свой час там старшыня калгаса бульдозерам знёс ганчарную майстэрню. Вось такі быў падыход да народнага мастацтва. Мясцовыя ўлады таксама не праяўлялі зацікаўленасці да іх развіцця.

Гэта відаць сёння ўсюды. Успомніць хоць бы палескую вёску Огава, дзе ў свой час зрабілі спробу адрадзіць выраб куфраў. Прыехалі туды прадстаўнікі з Пінскай фабрыкі, дамовіліся з майстрамі аб супрацоўніцтве. Але якія паставілі ім умовы? На фабрыцы існуюць свае патрабаванні: трэба выкарыстоўваць не алейную фарбу, а нітрафарбавальнікі, таму што алейная доўга сохне, дрэва давялося замяніць фанерай, роспіс па дрэве значна спрасцілі. Усё з той жа нагоды: каб зрабіць куфар можна было хутчэй і прасцей. Такім чынам фабрычная тэхналогія выпустошыла даўні промысел. Сапраўдныя майстры не маглі мірыцца з гэтым. Вядома, напрыклад, што пружанскі ганчар Антон Такарэўскі некалі палкай выгнаў прадстаўніка слонімскай фабрыкі. За што? За тое, што той пачаў вымяраць памеры гаршка лінейкай, каб падганяць іх пад пэўны стандарт. Не разумеючы таго, што ў майстра заўсёды ідзе імправізацыя, ён прапануе свае варыянты вырабу. Законы народнага мастацтва ўвайшлі ў супярэчнасць з арганізацыяй фабрычнай вытворчасці. Але, акрамя фабрык мастацкіх вырабаў, ніхто раней промысламі не займаўся. І вось сёння мы бачым сумныя вынікі гэтага фабрычнага ўплыву. Пакуль што і кааператары не праяўляюць зацікаўленасці, каб укладваць сродкі ў промыслы. Кааператарам прасцей паехаць у вёску і купіць тое, што ёсць, а затым перапрадаць... Калі шчыра, то можна толькі здзіўляцца, як яшчэ сёння існуе народнае мастацтва, нягледзячы на такі цяжкі свой лёс.

# З родная кута

**У хаце сястры Якуба Коласа Юзі зімовымі вечарамі збіраліся сваякі і згадвалі родзічаў, што жылі за мяжою, у Савецкай Беларусі. Чыталі вершы дзядзькі Кастуся, вострыя артыкулы Язэпа Лёсіка, яго выступленні на розных пасяджэннях. Яны не здагадваліся, што Язэп Лёсік асуджаны НКУС. Часта ўспаміналі Старажоўку ў Менску, куды да падзелу Бацькаўшчыны ездзілі ў госці да Язэпа Лёсіка, да «дзядзькі Якуба».**

**І сёння мае землякі ганарацца сваімі славутымі аднавяскоўцамі. Вось як выказваецца хроснік Язэпа Лёсіка Леанід Біруля: «Язэп Юр'евіч — чалавек з вялікай літары. Ён — сумленне Беларусі...»**

**У нашай хаце дажываў свой век родны брат Язэпа Антон Лёсік. Ён шмат распавядаў пра грамадскую, навуковую дзейнасць брата, пра яго нялёгкі жыццёвы лёс. У нашых дзіцячых вачах дзед Язэп паўставаў, нібы асілак, дуб-легенда, што на Буданскім лузе, пра які пісаў Якуб Колас:**

**Сілачом стаіць дуб**
**разложысты,**
**І здалёк відаць пышны верх**
**яго...**

**Мы ведалі, што брат нашай бабулі Ганны быў надзвычай смелы, свабодалюбівы, ахвярна служыў свайму народу...**

**Дзед Язэп памёр у Саратаўскай турме. Жонка Язэпа Лёсіка пахавана ў Краснадарскім краі, каля пасёлка Татарка...**

**Чытачам прапануецца артыкул Язэпа Лёсіка пра мову, які быў надрукаваны ў газеце «Беларусь» за 1920 год. Захоўваецца правапіс таго часу.**

**Сымон БЕЛЫ,**
**заслужаны настаўнік рэспублікі, старшыня Радашковіцкай рады ТБМ.**



*Язэп ЛЁСІК*

# АБ МОВЕ

Шмат кажуць аб тым, што ў нашай мове вялікае хараство і багацьце. Але мала казаць, трэба ўмець выказаць і захаваць гэтае багацьце, трэба ўмець бараніцца ад тае навалы чужых слоў, што без ніякае патрэбы заносяцца ў нашую родную мову і якіе могуць быць лёгка заменены сваімі словамі. Пілнавацца чысьціні мовы павінен як кожны беларус, так, асабліва беларус інтэлігент, і асабліва людзі, што прымаюць учасьце ў беларускай літэратурнай працы. Адылі (аднак) мы гэтага мала глядзім. Мы з чыста славянскаю ленасьцяю не зварачаем увагі на чысьціню нашае мовы і гэты найдаражэйшы наш скарб часта самі псуём чужымі словамі. Калі дужшые і багацейшые за нас народы, прыкладам, немцы, палякі і інш., што маюць болей спосабаў абараніцца ад чужнікоў у роднай мове, утварылі адмысловые таварыствы дзеля гляду чысьціні мовы, дык і пагатове гэткае т-во патрэбна нам пры нашай яшчэ вялікай неахайнасьці грамадзянства з гэтага боку. Гэткае т-во (якім магло-б быць, прыкладам,«т-во прыяцелеў беларускае мовы»), складзенае з людзей запраўды ведаючых родную мову, павінно было б, паміж іншым, рабіць агляд збоку мовы кожнае новае кнігі, што вельмі прычынілася-б да чысьціні мовы. Але пакуль што аб гэткім т-ве нічагусенькі ня чуваць. А тым часам справа ня жджэ. Дык жадаючы хоць у маленькай макулінцы памагчы справе чысьціні роднае мовы, я раблю гэткі агляд. Бяру спачатку «Жывыя Казкі» Алеся Гаруна. Пачынаю з «Ж.К.» ня дзеля таго, каб у гэткай кніжцы было болей барбарызмаў, чымся ў іншых, а толькі таму, што гэтая кніжка адна з апошніх, і я прачытаў яе, закасаваўшы чужыя словы, з таго цяпер і карыстаю. Падчырківаю, што раблю гэта ня дзеля крытыкі аўтара, а дзеля чысьціні мовы.

«Незапамінайка» — полёнізм. Ёсьць слова «забыцца», «не забыцца», дык пабеларуску будзе «незабудка».

«Нашто буду шкадавала» — полёнізм. Пабеларуску будзе *«на што буду шкадаваць»*, бо беларускіе дзеясловы незакончанага трываньня твораць будучы час пры помачы дзеяслова «быць» і неазначанага ладу спраганага дзеяслову, а ня прошлага часу, як у польскай мове.

«На цябе чакаюць» — полёнізм. *Чакаць* можна *каго*, а не на каго.

«Сьпяваць, засьпяваць, сьпявак, спявачка» — полёнізма. Пабел.— *пяяць*, або *пець, запяяць*, спрагаецца гэтак: *пяю, пяеш, пяе, пяем, пеяцё, пяюць;* прошлы час: *пеяцё* і г. д.; *пяюн, пяюха*.

«Ткачыха» — маскалізм; пабеларуску — *ткальля*, а «ткачыха» пабеларуску значыць жонка ткача.

«Можа горо ўкоіцца, пераціхне, згіне». «Укоіцца» — полёнізм; пабелар. будзе — *супакоіцца, усьцішыцца, палягчэе, перасьціхне* ці *пераціхне*. «Укоіцца» тут зусім не патрэбна, бо словамі «пераціхне, згіне» выказана ўся думка.

«Цьвяты» — навет нашые поэты ўмеюць ужываць ажно гэткіе маскалізмы. Пабеларуску — *краскі:* «Ружовы» — полёнізм; пабеларуску — *ружа, ружавы*. «Здоляць» — полёнізм, пабеларуску — *здолець*. «Пабітая сабака». Сабака мужчынскага роду.

«Гэта пасак мой». Ёсьць у беларускай мове слова *«паска»* значыць палоска, прыкладам «пояс у паскі». Але «пасак» няма, гэта полёнізм. Пабеларуску — *поес*. «Прамень» полёнізм; пабеларуску — *каса*, зьмяншэннае — *касулька*. «Хвіліна» — *часіна*, што трэ было б ужываць і ў значэньні меры часу — мінуты.

«Умеркавана» — мерна «роску з лісьцяў страсануў». У беларускай мове і адзіночны, і множны лік, і іменьні *зборные*, каторые замяняюць множны лік і зьмяняюцца як іменьні ніякага роду ў адзіночным ліку. Ад слоў — *ліст, камень, полаз, жэрдзь, карэнь, колас, нож, бервяно, хуста, судзіна, палено* множны лік будзе (мае, харошые) *лісты, камяні, палазы, жэрдзі, карані, каласы, нажы, бярвёны, хусты, судзіны, палены*, а зборнае (маё, харошае) *лісьцё, каменьне, палазьзё, жардзё, карэньне, калосьсе, нажжо, бярвеньне, хусьцё, судзьдзё, паленьне;* родны склон (майго, харошага) *лісьця, каменьня* і г. д. Значыцца, трэба сказаць *«роску з лісьця страсануў»*.

«Уздрогваючы», маск. Пабеларуску ёсьць *дрыгва, дрыготка, дрыжэць, уздрыгаваць* або *ўздрыгваць;* значыцца будзе — *уздрыгваючы*.

«Заўважыць». За гэтае слова аўтора пакуль што вінаваціць ня можна, бо блізу яшчэ ўсе яго ўжываюць. Адылі гэта слова не беларускае, а польскае. Народ яго таксама або зусім ня ўжывае або ўжывае вельмі рэдка. Замест яго трэба ўжываць — *зацеміць* (=маскоўскаму— заметить), *прыцеміць* (маск. — приметить), а так сама словы *цемны* або *кемны** і *цемнасьць* або *кемнасьць* (=маск. 'сообразительный, сообразительность); *цемлівы, кемлівы* і *цемлівасьць, кемлівасьць* (=маск. понятливый, понятливость); *цямкі, ая ое*, калі кажацца аб людзёх, то значыць «наблюдательный», прыкл., *Ён цямкі чалавек, нічога не прапусьціць, малую макулінку ўгледзіць*. (Аб дарозе, сьцежцы і г. п. значыць «заметный». *Цямкая дарога, сьцежка*. Нацямкі— «наглазомер».) Словы гэтыя я запісаў у пав. Вялейскім, Дзісьненскім, Полацкім, Лепельскім і Слуцкім. Значыцца яны пашыраны па ўсёй Беларусі.

«Ён відзеў сон». Сну відзець нельга, яго можна толькі *«сьніць»*, адгэтуль *«сьненьне»* — сновидение.

«Мусіць, знаеш, як прыходзіцца нам жыць». *Знаць* можна чалавека, але *ведаць*, што ён думае, робіць, як жыве і г. д., *даведацца што* — узнать, *даведацца да каго* — посетить кого, *даведацца каго* — навестить кого.

«Які з сябе вялізны». «З сябе» — полёнізм. Пабеларуску трэба сказаць *«які ён вялізны»*. «убачыць» — ляпей *«угледзіць»*.

«Абіжваць». Слова зробленае (хто зрабіў — аўтор ці карэктар?) паводле маскоўскіх балгарызмаў. Няма чаго завідаваць розным «между, вожденіе, сужденіе, насаждать» і іншым «жд». Пабеларуску *«крыўдзіць»*, «чырвонец» — *чырванец*. «Яська». Гэткія зьмяншальныя іменьні людзей, як *Ясь, Стась, Адась, Вінцусь* і *Яська, Стаська, Адаська* словы польскіе, а не беларускіе. Пабеларуску будзе: *Януль, Янук* (або *Іванька, Іванка*), *Стасюк, Адамка, Вінцуль, Вінцук*.

«Хлопаць» — маскалізм. Пабел. — *Лопаць. Лоп яго па плячы*. «Падступіўшы ўсіх бліжэй» — маскалізм. Прыраўнаваньне ў беларускай мове выказуецца пры помачы прыймя *за*, трэба сказаць *Падступіўшы за ўсіх бліжэй*.

«Дзеці зьбіраюцца купкамі каля ракі». «Купка» — полёнізм; пабеларуску — *кучка, грудок*.

«Пекны». З чыесь лёгкае рукі заляцело гэто польскае і зусім непатрэбнае нам слово і дагэтуль гуляе па ўсіх кнігах і газэтах. Папольску ёсьць «пенкны». Каб ад гэтага караня сутварылася слово беларускае, дык у нас было б «пякны» або «пукны», бо польскаму е а адпавядаюць у беларускай мове «я» або «у». Тымчасам гэтага няма. Дык кіньма хоць цяпер гэты жывы полёнізм. У нас ё шмат сваіх слоў для выражэньня гэтага паняцьця. Вось яны: *харошы, прыгожы, пазорны;* іменьні: *хараство, харашун, харашуха, прыгоство, пазор*.

«Файные ты боцікі ўзяў» — ці ня стыдна галіцца на гэты польскі гэрманізм, маючы гэтулькі сваіх добрых слоў? «Мне боты пасуюць». «Пасуюць» — полёнізм. Панашаму трэба сказать: *Мне боты ўходзяць*. «Кортачкі» — маскалізм; пабел. — *куркішкі* або *карачкі*.

«Сьцізорык» — *складанчык*. «Знадобіцца» — маскалізм; пабел. *спатрэбіцца, згодзіцца*.

«Ружжо» — маскалізм; пабел. *стрэльба*.

«Выклікае самых акаляючых людзей». «Акаляючых» — пабеларуску — *абступаючых*.

«Ліпавы» — маскалізм; пабел. — *ліповы*. «Паблажліва» —. полёнізм, пабел. — *патураючы*, «заспакойваць» — супакойваць.

«Гжэчненька» — полёнізм; пабел. *ветла, уветла, ветленька, уветленька*.

Хто баіцца, каб ня быць вялікім беларусам, дык няхай ляпей кажа *«далікатна»*. Гэта хоць і чужое слово, але прынімса (відаць, друк. памылка — прынамсі. — Рэд.) ня так рэжа вушы.

«Пьецъ». Гукі «п, м, б» перад адкрытымі мягкімі галоснымі не зьмягчаюцца. Дзеля гэтага трэба пісаць *п'ець, б'ець, сям'я* (з коскаю ўверсе).

«Львы.» «е» і «о», будучы ў аснове такіх слоў, як *лоб, мох, 'роў, леў*, не выпадае: *лобу, моху, рову, лева, левы*, г. п.

«Трункі і шынкі» — польскі германізм. Панашаму — напітак і кумпяк.

* *Кемны* з *цемны*. Пераход «т» (або «ц» з «т») у «к» даволі часты.

# Дзеканне і цеканне

*(Заканчэнне. Пачатак у № 19).*

Я. Карскі абгрунтаваў сваё меркаванне прыкладамі перадачы гэтых асаблівасцей нашай мовы ў старадаўніх беларускіх рукапісных помніках. Падобна, як з аканнем ды яканнем, і ў гэтым выпадку «даўнія пісцы, наогул, усяляк пазбягалі азначаць свісцячае вымаўленне мяккіх [*д'*] і [*т'*], стараючыся выкарыстаць гістарычнае пісьмо, часта, магчыма, з мэтай адрознення яго ад польскага пісьма». Прыкладам, у напісанні слоў *детмі* ў Дагаворнай грамаце Полацка з Рыгаю (каля 1300 года) і *людмі* ў Дарчай грамаце Аляксандра Хадкевіча (1480 год) Я. Карскі ўбачыў графічны прыём, што быў выкарыстаны, каб не абазначаць мяккасць [*д*].

Вучоны знайшоў і выпадкі перадачы непасрэдна дзекання: *людзі* ў Грамаце кн. Івана Сямёнавіча, полацкага намесніка (1409 год), а таксама *метаці* — «несумненнае цеканне» — у «Літоўскай метрыцы».

Што праўда, некаторыя з іх Я. Карскі палічыў за паланізмы. Але, відаць, трэба ўлічваць, што да XVI стагоддзя дзяржаўнай мовай, на якой пісаліся дакументы Польскага каралеўства, была лацінская мова. А ў польскіх мястэчках ды касцёлах гучалі нямецкая і чэшская мовы. Не ведалі роднай мовы польскія князі і каралі, як, прыкладам, тая ж каралеўна Ядвіга, першая жонка Ягайлы, за «круляваннем» якога на кракаўскім Вавелі «запанавала рушчызна», г. зн. беларуская мова. Дык адкуль жа маглі ўзяцца тыя паланізмы ў «полоцькіх» граматах пачатку XV стагоддзя?

Я. Карскі заўважыў, што з-за страты беларускай мовай цвёрдых [д] і [т], узнікае пэўная цяжкасць пры перадачы гэтых гукаў у іншамоўных словах. І замест *ді* ці *ті* «часта выкарыстоўваюцца цвёрдыя [д] і [т]: *дыйакана* (пры звычайным *дзякон*), *дъяволы, дыявол...*

## ДАПЫТЛІВЫМ

Тут мы маем справу з другасным зацвярдзеннем [*д*] і [*т*]».

Так было і даўней, так і цяпер. Прыкладам, мы пераважна гаворым *тыгр, тэатр*, хаця, калі мы лічым сябе за прыхільнікаў роднай мовы, мы павінны былі б вымаўляць *цігр, ціятр*. Ды што ўжо казаць пра замежныя словы? Хіба мы не чуем паўсядзённа *деті, день, судья?* І хто нам будзе за суддзю?

*Алег БЕМБЕЛЬ*

# З «падпольнай» кнігі

*(Працяг. Пачатак у №№ 5 — 19)*

Праз такія стадыі развіцця адносін да сваёй культуры і мовы прайшлі ўсе народы, якія не мелі раней сваёй дзяржаўнасці ці на доўгія часы былі яе пазбаўлены. У чэхаў, славакаў, фінаў, эстонцаў, латышоў, літоўцаў, югаслаўскіх народаў, балгар і г.д. — такая праблема паўставала перад імі ўсімі. Зараз — перад шэрагам народаў трэцяга свету яна стаіць, звязана з іхняй «моўнай непаўнацэннасцю»...

Стаяла яна на пачатку стагоддзя і перад нашай нацыяй. Аднак з-за шэрагу аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын гэтая праблема засталася актуальнай і па сённяшні дзень, і, па сутнасці, яна не вырашана. Пры царызме нас імкнуліся русіфікаваць (XIX стагоддзе). У 20—30-я гады Заходнюю Беларусь — паланізаваць. Адзін буйны польскі гісторык сказаў аднойчы (адносна лёсу беларускай культуры і мовы ў складзе Польшчы): «Праз 10 год мы ўсіх беларусаў пасадзім на адну канапу». Тым не менш з гэтага нічога не атрымалася... Аднак адносна перспектыў: ці магчыма адрадзіць беларускую мову практычна?..

У свой час нямецкія фашысты хацелі нас германізаваць — накінуць абсалютна чужую мову, якая для простага чалавека не мае ніякіх аналагаў з роднай мовай. І, калі верыць фактам, за невялікі час шэраг гараджан (прычым — не з ліку здраднікаў), па прычынах вытворчых, службовых, асабістых, сутыкаліся з немцамі і за невялікі тэрмін засвоілі нямецкую мову (маглі гаварыць). Мне думаецца, пры такіх тэмпах і пры такіх жорсткіх сродках, якія ўжывалі фашысты, калі б запанавалі надоўга, пасляваеннае пакаленне практычна дрэнна ведала б родную мову (альбо зусім не ведала б)... І наша інтэлігенцыя, якая цяпер лічыць рускую мову лепшай на свеце, цудоўна размаўляла б на нямецкай — і лічыла б яе самай лепшай!..

Чэхі, у перыяд свайго нацыянальнага адраджэння, былі ў такой ступені германізаваны, анямечаны, што яшчэ доўга пасля заваявання незалежнасці выкладанне ва універсітэце ішло на нямецкай мове. І па сённяшні дзень існуюць дзве мовы: чэшская літаратурная мова і своеасаблівы ўжытачны жаргон, які ў такой меры засмечаны чыста нямецкімі альбо крыху толькі аславяненымі (ачэшанымі) выразамі, што мовазнавец, які вывучае чэшскую мову толькі па падручніках, амаль не разумее яе (альбо зусім).

Дарэчы адурачаны беларускі абывацель не ўяўляе сабе, што моўная барацьба ідзе не толькі ў нашых межах. Ёсць шэраг краін — Бельгія, напрыклад, і інш., дзе ўжываецца некалькі моў, між якімі ідзе барацьба за прыярытэт. У іншых формах — у Канадзе, Фінляндыі (дзе існуюць дзве дзяржаўныя мовы — шведская і фінская)... І зусім, здавалася б, неверагодная з'ява адбываецца ў Англіі, дакладней — у Вялікабрытаніі, дзе магутна расце свядомасць шатландскага насельніцтва, імкненне адрадзіць шатландскі фальклор і мову, якія разбураны не толькі да руін, але і да падмурку. Там ідзе працэс аднаўлення і поўнай рэканструкцыі мовы... Яшчэ больш фантастычная з'ява — адраджэнне мовы Уэльса, на якой размаўляюць практычна адзінкі...

Так што ў параўнанні з імі, у нас моўная праблема, — нягледзячы на ўсю катастрафічнасць сённяшняй сітуацыі,— можа быць вырашана станоўча. Ва ўсякім разе, мы можам дабіцца такога стану, калі кожны чалавек рэальна (не на ўзроўні анкеты) будзе валодаць дзвюма мовамі. Я вось, нават, часта не памятаю, на якой мове я прачытаў кнігу — на беларускай, рускай ці польскай...

Нягледзячы на адсутнасць шырокага ўжывання літаратурнай мовы — колькі яшчэ функцыяніруе ў нас жывой гутарковай мовы!.. Калі б увогуле не існавала нашай літаратуры, напісанай за апошнія сто гадоў, калі б не было фальклорных запісаў і фанатэк, калі б спатрэбілася раптам ізноў пачынаць з нуля, на пустым месцы,— мы б і пры такой сітуацыі маглі аднавіць, рэканструяваць і захаваць мову.

Ёсць і такая прычына — выніковая ўзаемасувязь: на якой мове вучаць у ВНУ, на такой мове будзе гаварыць інтэлігенцыя. На якой інтэлігенцыя (у тым ліку тэхнічная) — на такой будзе гаварыць і горад. На якой горад — на той і ўвесь народ...

Выснову рабіць не варта...

Нармальныя ўмовы для моўнага развіцця — гэта нацыянальнае выхаванне ў дзіцячым садзе, школе, інстытуце, аспірантуры... Пасля, вельмі важны фактар — на якой мове падаецца справаводства, візуальная інфармацыя, тэлебачанне, кіно, эстрада, тэатр... і, вядома,— кніга. У шырокім сэнсе. Па ўсіх праблемах,— а не толькі мастацкая літаратура і публіцыстыка. Практычна нічога з гэтага ў нас не існуе...

Што можа прачытаць на беларускай мове чалавек, якога не цікавіць тэматыка, уласцівая беларускай літаратуры (тэма вёскі)?.. Караткевіча, Быкава, Шамякіна?.. А калі не падабаецца?.. А ўся сусветная класіка?.. Заходнееўрапейская?.. (Рускую мы можам чытаць у арыгінале, дарэчы, гэта не ўсякі народ сабе можа дазволіць). Трэба арыентавацца на ўсе ўзроўні: і на высокае мастацтва, і на кіч (дэтэктывы і іншыя «нізкія жанры»). Практычна ў беларускай літаратуры нават не існуе дэтэктыўнага жанру. Калі б мы не выдавалі вар'яцкімі тыражамі (800 тыс.), скажам, «Айвенга» і інш., на рускай мове, а выдалі на беларускай тысяч па 30—40, паступова разбурыўся б псіхалагічны бар'ер... Бо масавы беларус лічыць, што нічога цікавага на беларускай мове прачытаць нельга.

Я сам прайшоў праз усё гэта. Я гараджанін у трэцім пакаленні. Прайшоў усе тыя стадыі, якія праходзіць тыповы «мінчук» — з усімі вынікамі такога «выхавання». І тым не менш неяк сам зразумеў неабходнасць нацыянальнага. І на пэўным этапе з мовай было цяжка. І не год і не два. Але з цягам часу ўсё гэта ліквідавалася. Усё стала настолькі арганічна, лёгка... здзіўляюся, нават, што для некага існуе такая праблема...

...Мы настолькі прывыклі маніць сябе ў плане мовы, што нам вельмі патрэбна шчырая размова пра гэта... Такая кніга мела б вялікі грамадскі рэзананс... «Папярэднія супярэчнасці» чытаецца, як дэтэктыў, захоплівае нечаканасцю... Няма зададзенасці — калі аўтар адразу пачынае гуляць у паддаўкі. Раскрыццё тэмы ідзе праўдзіва, бачыш сапраўдную сітуацыю, у якую трапляе аўтар радкоў...

Упэўнены, што рэабілітацыя беларускай мовы ў вачах нацыі адыграла б вялікую выхаваўчую ролю. Быў бы вялікі маральны, агульны духоўны ўздым. Адна з прычын татальнай бездухоўнасці, узаконенасці ваяўнічага мяшчанства ў нашым побыце, у службовых адносінах — адчужанасць ад роднай мовы, культуры, несфарміраванасць нацыянальнай свядомасці. Адсюль — знявечанасць індывідуальнасці, дэградацыя асобы ў рэшце рэшт...

У чалавека нацыянальна свядомага адразу ўзнікае цікавасць да гісторыі культуры, да суседніх культур і моў. Прычым не з вакна турысцкага аўтобуса, а сапраўдная цікавасць. Узнікае жаданне паглыбіцца ў памяць свайго народа... У гісторыю мастацтва.

Узнікае жаданне вызначыць сваё месца сярод іншых народаў і падняцца да ўзроўню лідэраў. Гэта магутны штуршок да развіцця, да прагрэсу. Нацыянальная свядомасць — гэта перш за ўсё адносіны да сваёй мовы, захапленне сваёй мовай, культурай, гісторыяй. І яшчэ — уменне бачыць хібы свае, уменне жадаць другім народам таго ж, што і свайму ўласнаму. Нацыянальная свядомасць — гэта вышэйшая ступень развіцця і адначасова пачатак сапраўднага духоўнага станаўлення народа. Тут адкрываецца бязмежнае поле развіцця. Праз культуру народа развіваецца і індывідуум, асоба. А нацыянальнае пачуццё, нацыянальная гордасць — магутны стымул, які памнажае імкненне да прагрэсу, да развіцця — у любой сферы чалавечай дзейнасці. І наадварот, народ, пазбаўлены нацыянальнай свядомасці, паступова дэградзіруе і страчвае нават раней заваяваныя пазіцыі...

А што да думкі, быццам беларуская мова «непрыгожая», «неарыгінальная», гэта зноў вынік ацэнак, навязаных нам у такім узросце, калі мы яшчэ не маглі разважаць самастойна. Навязаных людзьмі вельмі далёкімі ад сапраўднай духоўнасці, ад сапраўднай культуры. Абывацель, які любіць падкрэсліваць, што беларуская мова — гэта «сумесь уплываў», не ведае пра сапраўдны стан рэчаў. Гэта дзіўнае невуцтва людзей, сярод якіх ёсць і тыя, хто мае дыплом філолага...

*(Працяг будзе).*

# Да мяне зноў вяртаецца Бог

*Васіль СУПРУН*

## Мы помніць мусім

Яшчэ нямала па нашым краю
Чужога фальшу нахабна бродзіць.
І ўсё няпроста,
бо злыдні знаюць,
Як памяць нашу ў балота зводзіць.

Камусь патрэбна, каб нашы дзеці
Не зналі роду свайго і мовы
І каб лічылі,
што ў цэлым свеце
Гучыць найгоршым іх маці слова.

Каб адракліся ад славы, волі,
Ад родных гоняў і продкаў людзі.
Тады ў жыцці іх, маўляў,
ніколі
Праблем з Радзімай ўжо больш не будзе.

Праклянцце злыдням!
Мы ж помніць мусім,
Што не чужынцы дадуць нам долю.
Сваім змаганнем
для Беларусі
Здабудзем шчасце,
здабудзем Волю!

*Іван ЧЫГРЫН*

* * *

Нехта будзе пісаць і праз тысячы гадоў.
Толькі ці па нашай мове?

Нехта будзе чытаць і праз тысячы гадоў.
Толькі ці па-нашаму?

Нехта будзе спяваць і праз тысячы гадоў.
Толькі ці песні беларусаў?

І з'яўляюцца ж такія думкі пасля Чарнобыля!
Колькі на зямлі ачагоў адно нябачнай смерці?
А на колькі к часу таму пабольшае?

Нехта будзе пісаць...
Нехта будзе чытаць...
Нехта будзе спяваць...
Ці будзе?!?
Ці будзе?!
Ці будзе?

26.XI.1987

*Ніна МАЦЯШ*

## Памяці Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага

Бываюць душы — светлыня сама,
З нялёгкім конам — цемнату адпрэчваць.
Вас Беларусі выкахала Вечнасць,
Але ў гурмы пытаць пра Вас — дарма:
Не ведае, не прыгадае Вас,
Таго, хто так нямодна, далікатна,
Нястомна ў час, да ганьбы духастратны,
Вялічыў дух, каб ён ушчэнт не згас...
Каб выспявала, як зара, пара,
Калі на мове сэрца і служэння
Высока зашугае ўспалымненне
І бел-чырвона-белага кастра.
Калі, стваральнай мудрасцю жывы,
Згартуюць люд Асвета, Памяць, Вера.
...І недзе там, у яснасейных сферах,
За свой народ усцешыцеся й Вы!

*Славамір АДАМОВІЧ*

## Бог

Да мяне зноў вяртаецца Бог,
Бог расы, камянёў і глебы.
Ён сябе для мяне збярог,
як зямлю зберагае неба.

Ён па кроплі чырвоным віном
у мае наліваецца жылы,
ахінае шчаслівым сном
і дае для палёту крылы.

Ды калі я часамі так
зануджуся, што сэрца рве мне,
ён прыходзіць і кажа: слабак,
стань мацней за агонь і крэмень!

І яму запярэчыць я
не знаходжу важкай прычыны...
Бог цікуе за мной здаля,
а найменне яму — Жанчына.



# Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску

*Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Выдатныя ўзоры лірычнай паэзіі пакінулі нашчадкам іспанскія паэты канца XII — першай паловы XIII стагоддзя, якія складалі свае песні на галісійскай гаворцы. На жаль, невядомымі засталіся імёны гэтых паэтаў — сучаснікаў таксама нам невядомага аўтара славутага іспанскага эпасу «Песня пра майго Сіда».

* * *

Ах, толькі дуб-дубочак,
Ах, дуб-дубочак...
Як пайшла я, маці, прагнучы аднога —
Памаліцца шчыра, стаць бліжэй да Бога...
Ах, дуб-дубочак...

Памаліцца шчыра, стаць бліжэй да Бога —
Толькі вось не тую выбрала дарогу,
Ах, дуб-дубочак...

Завяла далёка горная сцяжынка,
І лягла спачыць я проста пад дубочкам —
Бедная, адкрыла вочы цёмнай ночкай,
А мяне мой мілы сціснуў у абдымках,
Ах, дуб-дубочак...

І світанак бачыць мне было няшчасцем...
Хай жыве такое Боскае прычасце —
Ах, дуб-дубочак...

* * *

Ах, кветачкі на зялёных ялінах,
Ці ў вас ёсць пра сябра майго навіны?
Божа, дзе ж ён, дзе?

Ах, кветачкі між зялёных галінак,
Ці ёсць пра каханка майго навіны?
Божа, дзе ж ён, дзе?

Ах, можа, мне скажуць алені ў гарах:
Калі ён яшчэ запозніцца — ах,
Што мне рабіць?

* * *

У цяні маіх чорных косаў
Мой каханак так соладка спіць —
Ці мне трэба яго будзіць?

Гэтак вось заснуў мой мілы
Проста на маім падоле.
Хто яго пазбавіў волі —
Я? Яшчэ якая сіла
Хлопца мілага змарыла?
Соладка ён спіць —
Ці мне трэба яго будзіць?

Страсцю мой пагляд замружыў
Вочы ў хлопца дарагога,
Сон яго адолеў, здужаў,
Ўсцешанага перамогай:
Не глядзіць больш ні на кога —
Соладка ён спіць.
Ці мне трэба яго будзіць?

**Пераклад Лявона БАРШЧЭЎСКАГА і Якуба ЛАПАТКІ.**

## Проза

*Вольфганг ЛАНГЕ*

# Дванаццаць вінаватых

*(Працяг. Пачатак у №№ 16—19).*

Твар у Бесельмана зрабіўся, як у ката, які не ведае, што перш з'есці — мыш ці рыбу:

— Не так ужо ўсё і проста, як вы думаеце,— запярэчыў ён.— Блазнюкі ўсе гэтыя з паважаных сем'яў. Сярод іх сын нашага бургамістра, сын фельчара і, вядома, гаспадара гасцініцы. Калі я звяжуся з імі, бацькі іхнія заявяць, што я не разумею сучасную моладзь. На апошнім пасяджэнні гарадской рады бургамістр ужо і так падпускаў пад мяне шпількі. Я, ці бачыце, занадта строгі. Абазваў мяне дапатопнай істотай. Што з імі зробіш. Добра было б, каб гэтыя малойчыкі сапраўды аказаліся рабаўнікамі. За гэта належыць турма. Мне б тады хоць на нейкі час стала лягчэй.

Фаўльхубер ні слова не запярэчыў Бесельману.

— Правільна, даражэнькі,— сказаў ён.— Вам, сапраўды, цяжкавата прыходзіцца. Але калі юнакі гэтыя раз'язджаюць на ўласных матацыклах, калі да гэтай — не хачу катэгарычна гаварыць — банды належаць і сынкі фельчара і бургамістра, тады я ніяк не магу ўцяміць, чаму ім так ужо закарцела пакатацца на чужой машыне. Такую прыемнасць ім кожны дзень могуць дазволіць іхнія бацькі. Колькі, між іншым, ім год?

— Пад дваццаць. Сын фельчара ўжо студэнт універсітэта, а сын гаспадара гасцініцы вучыцца ў гандлёвым вучылішчы. Але зараз канікулы, і, натуральна, усе яны тут.

Зусім верагодна, што Бесельман беспадстаўна западозрыў юнакоў, бо яны яму, як бяльмо на воку. Але, магчыма, яны і на самай справе маюць якое дачыненне да гісторыі з гаражом. Таму я сказаў:

— Пасля ўсяго, што вы расказалі, у мяне склалася ўражанне, што мы маем справу хутчэй з хлапечай забаўкай, чым з крымінальным правапарушэннем. Занадта ўжо часта, на жаль, мы забываем, што вырасла новае пакаленне людзей з іншымі, чым у нас, поглядамі і прынцыпамі. Магчыма, свет, у якім мы жывём, сапраўды крышачку запылеў. Моладзі хочацца падурэць — на спартыўнай пляцоўцы ці ў плавальным басейне. Але куды ёй падацца, калі ўсяго гэтага ў вёсцы няма? І што, уласна кажучы, горш — тое, што пан Клейдэрэр ледзь не наехаў на старую кабету, сапсаваў помнік, ці тое, што некалькі недаверкаў знялі з матацыклаў глушыцелі, каб выціснуць з машын яшчэ большую хуткасць?

— Але ж надта ўжо далёка вы зайшлі! — перабіў мяне інспектар.— Даволі недвухсэнсава даказана, што Клейдэрэр не мае ніякага дачынення да гісторыі з помнікам. Ён у Нюрнбергу. Калі вы настойваеце на сваім, можна яшчэ дадаткова праверыць. Але злачынства не робіцца меншым ад таго, што ёсць яшчэ горшыя, так? У адным пункце вы, бясспрэчна, маеце рацыю. Старэйшыя не заўсёды з'яўляюцца прыкладам для моладзі. Як вы мяркуеце, Бесельман, ці можна дапусціць, што хлопцы гэтыя не любяць Клейдэрэра і хацелі яму насаліць?

Обер-вахмістр разглядаў карціну, што вісела над буфетам — селянін у тырольскім капелюшы і высокіх ботах моцна трымае плуг, які цягнуць два валы; на заднім плане ўзыходзіць сонца.

— Пан Клейдэрэр належыць да паважаных грамадзян горада,— нарэшце сказаў Бесельман.— Ён член мясцовай рады і шмат чаго зрабіў ужо для Бюхельбурга. Па яго ініцыятыве упрыгожана рыначная плошча. Помнік вы ўжо самі бачылі, хаця ў яго зараз не вельмі прывабны выгляд. Готхальд даволі папулярны сярод сваіх сяброў па партыі ў Ландау і Штутгарце. У Бюхельбургу, вядома, у яго ёсць праціўнікі, але, скажыце на ласку, у каго з камунальных дзеячаў іх няма? Калі сёння раніцой Альфрэд Мойзле і сказаў што благое пра яго, то гэта яго поўнае права. Але ён забыўся, што Клейдэрэр клапоціцца пра бедных. На наступным тыдні ён нават склікае сход, і, на маю думку, дзеля гэтага і паехаў у Нюрнберг. Хлопцы, напэўна, ведалі, што ён збіраецца туды. Ад хлапечых забаваў да злачынства — адзін крок. Магчыма, гэтай бандзе спатрэбіліся грошы, і яны ўздумалі прадаць дзе-небудзь «мерседэс». Ці, можа, наважылі абрабаваць ювелірны магазін — а ў такой справе без машыны не абыдзешся — альбо схапіць і завезці за горад дзяўчыну. Проста нам трэба ўсю шайку арыштаваць і даведацца, дзеля чаго ім спатрэбілася машына. Трэба дзейнічаць рашуча, пакуль не здарылася якога забойства, а то нам прыйдзецца горш.

Бесельман моцна сціснуў кулакі, і твар яго зрабіўся такі ж зацяты, як і ў селяніна, што быў намаляваны на карціне.

— Давайце лепш крышачку пачакаем,— сказаў Фаўльхубер, падняўшы руку.— Баюся, пракурор прагоніць мяне, калі я ўвалюся да яго адразу з цэлай шайкай хуліганаў. А колькі іх?

— Восем, калі не лічыць дзяўчат. Дэтлеф Уленхорст, Венцэль Бергле, Фолькер Пфаншміт...

— Пачакай, не спяшайся,— перабіў яго інспектар.— Трэба запісаць.

Я разгарнуў сваю кніжачку і запісаў восем прозвішчаў — адно пад адным, каб потым лягчэй было іх выкрэсліць, бо не верыў яшчэ ў легенду пра бюхельбургскую банду.

Фаўльхубер склаў план баявых дзеянняў на другую палову дня. Штаб-кватэрай ён прызначыў службовы кабінет Бесельмана ў канцылярыі бургамістра, дзе будзе, вядома, ён сам! Гэтак зручней. Мы з Бесельманам павінны былі знайсці сведак: калі на помнік налятае аўтамашына, уяўляеце, які ўзнімаецца грукат! Летам людзі спяць, расчыніўшы вокны, і толькі д'ябал можа так падстроіць, што ніхто не пачуе.

Обер-вахмістр адразу ж падахвоціўся выконваць заданне. Распытваць людзей было, відаць, яму даспадобы: можна пакрасавацца, паказаць сябе з самага эфектнага боку. А я цяжка ўздыхнуў. З блакітнага неба неміласэрна смаліла жнівеньскае сонца. Будынкі вакол рынку былі ўсе двухпавярховыя, і, калі фартуна павернецца да мяне патыліцай, прыйдзецца палазіць яшчэ і па мансардах.

— Дык за справу! — сказаў я і паволі падняўся з крэсла якраз тады, калі Бесельман прышпільваў да рэменя свой пісталет.— Адзін з нас пойдзе вакол плошчы направа, другі — налева. Які бок выбіраеце?

Бесельман прыкінуўся, што яму ўсё роўна.

— Якая розніца. Калі вы пойдзеце направа, то я наадварот — налева. А вунь там, дзе стаіць будынак з дзвюма вітрынамі,— ён падышоў да акна,— мы сыдземся.— Потым даў мне некалькі парад: дзе шукаць дзвярныя званкі, дзе жыве старая бабуля, ад якой усё роўна мала карысці, бо яна глухая.

Мы высунуліся з дома. Гарачыня стаяла, што не дыхнуць. Я прыплюшчыў вочы і зірнуў на царкоўную вежу: была палова трэцяй.

На рынку — нікога. У такую гарачыню нават сабака не вытыкаецца з будкі. Пасярэдзіне плошчы сіратліва сінеў «мерседэс». Над яго дахам мігцела распаленае паветра.

Обер-вахмістр дакрануўся да брыля сваёй шапкі і зухавата павярнуўся налева. Я пачаў з бліжэйшага дома. Званю, стукаю, распытваю:

— Гэтай ноччу на помнік наехала машына, ці чулі вы што-небудзь? Калі вы ўчора леглі спаць?

І ўсё так: з кватэры ў кватэру, то падымаюся па прыступках, то спускаюся ўніз... «Добры дзень», «Вялікі дзякуй», «Да пабачэння»... У людзей, што жылі вакол плошчы, быў надзіва кепскі слых:

— Нічагуткі не чуў — начамі сплю...

— Бяда якая! Убачыў раніцой, як выпускаў сабаку...

— Лепш запытайце ў Клейдэрэра: каму, як не яму, ведаць...

Я пачаў кіпець ад злосці. Бесельман, ліха на яго, падаткнуў мяне да самых няўручных сведак. Пастар прычапіўся, каб я зірнуў на яго сад, а гаспадар тэкстыльнай крамы пачаў угаворваць мяне, каб купіў антырэўматычныя споднікі. І гэта ў трыццаціградусную спякоту! Праз гадзіну я быў сухі, як выпітае яйка. Толькі сарочка падпахамі была мокрая. Нарэшце, а чацвёртай гадзіне, я скончыў абход. Так нічога і не дазнаўшыся. Бюхельбуржцы спалі ў тую ноч як забітыя!

Я апынуўся ля дома з дзвюма вітрынамі, але Бесельмана нідзе не было відаць. Хоць гарачыня крыху спала, але чакаць яго мне не хацелася. Я паправіў падпахай пакунак са споднікамі, якія мне ўпёр па сходнай цане крамнік, і ў трэці раз у той дзень перасек рыначную плошчу. Разбітая машына ўсё яшчэ стаяла на сонцапёку. Я здзівіўся, бо звычайна рамонтныя майстэрні адразу ж бяруцца за справу, як д'ябал за грэшную душу. Можа, пані Клейдэрэр забылася пазваніць? Прыйдзецца сказаць інспектару, што нам самім трэба паведаміць. А Бесельман паклапоціцца пра помнік; мяхі са два цэменту і жалезны прэнт — і ён зноў будзе стаяць. Раптам мне закарцела ведаць, у чый гонар, уласна кажучы, яго ўзвялі — абеліск упаў надпісам на брук. Трэба абавязкова даведацца, каб у пратаколе было ўсё ў парадку. Можа, гэта помнік славутаму паэту-суайчынніку Вільбальду Грыфелю альбо курфюрцкаму камер-егеру Алаізу Какерлаке ад удзячных вінаробаў Бюхельбурга?

Яшчэ ў цёмным калідоры канцылярыі бургамістра я пачуў голас Фаўльхубера:

— На такія выпадкі ў нас ёсць службовая зброя. Прызнацца, я не вельмі люблю яе ўжываць, аднак, калі да гэтага дойдзе, далікатнічаць нельга. Вядома, паліцыя страляе толькі ў выпадках крайняй неабходнасці і спачатку па нагах. Між іншым, асістэнт мой — выдатны стралок.

Ён трохі перабольшваў. За ўсё жыццё я ні ў кога яшчэ не страляў, а ў цыры, калі і падаю ў мішэнь, то самае большае ў васьмёрку. Акрамя таго, пісталеты нашы ляжалі ў сталёвым сейфе ў Ландау.

Я адчыніў дзверы. Наша «штаб-кватэра» духмяна пахла кавай, карыцай і каньяком. Чорт ведае, як усё гэта раздабыў Фаўльхубер! Пэўна, зачараваў пані Бесельман, калі я ў самую спякоту займаўся роспытамі.

— Гляньце,— інспектар вяла прывітаў мяне рукой,— пра воўка памоўка, а воўк і сам тут! Я гавару вось з хлопцам пра дэтэктыўныя тэлефільмы. Ён, ведаеце, першы ўбачыў аварыю на рыначнай плошчы.

Я зірнуў на маладога хлапца, што сядзеў на самым краёчку крэсла і абмахваўся белай пекарскай шапачкай.

— Я адразу здагадаўся,— сказаў ён,— што адбылося злачынства. Усё мела вельмі крымінальны выгляд, а цела яны, напэўна, забралі з сабой, бо не маглі ўжо далей ехаць на аўта.

— Безумоўна,— зусім сур'ёзна кіўнуў галавой інспектар.— У кардонцы ад чаравікаў — калі яна ў іх была. Але, на жаль, ніводнай не знайшлося.— Апошнія словы прагучалі неяк журботна. Магчыма, у глыбіні душы Фаўльхубер не менш за некаторых злачынцаў тужыў па «сапраўднай справе». Потым ён запытаўся ў мяне: — Знайшлі што-небудзь? Хаця б малюсенькую зачэпку?

*(Працяг будзе).*

